**Выдавец:**
ПП
«Дарога на
Вільню плюс»,
пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by

Выдаецца са снежня 1994 года

44 (552) 4 лістапада 2010 года

Кошт **свабодны**



## Нязменная тройка лідэраў-шахматыстаў

■ Я. Самсонаў

**У суботу 30 кастрычніка ў Глыбоцкім дзяржпрафліцэі адбыліся спаборніцтвы, першынство Глыбоцкага раёна па хуткіх шахматах, якія ўваходзяць у праграму круглагадовай раённай спартакіяды сярод працоўных калектываў.**

Сенсацый не адбылося. Як звычайна, з большага, ўсё вырашаў адзін непрадуманы ход, а часам, як у спрынце, некалькі секунд. На першай дошцы 3 месца заняў С. Сырапятка (РУЭС), 2-ое – Д. Талапіла (ГЭС), на другой дошцы адпаведна А. Высоцкі (ГЭС), А. Качан (камбікармовы з-д). Шахматная карона і на гэты раз засталася ў прадстаўнікоў каманды “Ліцэй” Анатоля Мялешкі (1-дошка), Станіслава Мялешкі (2-дошка) і бяззменнага лідара сярод жанчын, прадстаўніцы каманды “ГЭС” Ганны Кубаркі. Праўда, блізка была ў тэхнічным плане (секунд 10, не больш), каб развеяць міф аб непераможнасці знакамітай шахматысткі, прадстаўніца камунальнікаў Наталля Тумчонак, але не хапіла вытрымкі.

Другая нечаканасць, якая паставіла судзейскую калегію ў складанае становішча,– тое, што трое шахматыстак: Наталля Тумчонак, Вольга Салавей і Ірына Казачок набралі аднолькавую колькасць ачкоў. Вынік асабістай сустрэчы нічога не даваў. Таму было прынята мудрае рашэнне – уручылі граматы за другое месца кожнай.

У камандным заліку – першае месца ГЭС (21 ачко), другое – Ліцэй (20), на трэцім – Камбікармовы з-д (17). 4-5 – РУЭС, ЖКГ(11). Мясакамбінат (10,5), ЗХП г.п. Падсвілле (9,5), АП №16 (8), РАЙПО(1) занялі адпаведна з 6 па 9 месцы.

**На здымку справа ўверсе:** дэбютант Л.Літвінскі (злева) і мясцовы грасмайстар А. Мялешка. *Фота Я. Самсонава.*

## Äçåíü çà äí¸ì

**З новага года кошт газу для Беларусі складзе 210-220 USD/тыс. кубаметраў, згодна раней падпісанага кантракта. Расійскі ўрад адмовіў беларускім уладам, якія прасілі зменшыць кошт блакітнага паліва ўжо ў 2011 годзе. Крэмль яшчэ больш ускладняе ўмовы далейшых паставак энерганосьбітаў у Беларусь. Поўны перавод беларускай арміі на кантрактную аснову, як пацвердзіў Галоўнакамандуючы А. Лукашэнка, не плануецца. Напяэдадні выбараў у краіне зноў у сярэднім на 10 % павялічылі памеры працоўных і сацыяльных пенсій.**

# Âàæíåéøûÿ íàâ³íû ñâåòó

**Бельгія.** На саміце Еўропа-Кітай кіраўнікі ЕС жорстка запатрабавалі ад КНР павысіць курс сваёй валюты і палепшыць умовы працы ў Кітаі для асноўных еўрапейскіх кампаній.

**Расія.** У бліжэйшыя некалькі гадоў, як паведаміў міністр фінансаў РФ А. Кудрын, можа паэтапна павялічвацца пенсійны узрост (62 гады для мужчын і 60 гадоў для жанчын).

**Гаіці.** На поўначы вельмі беднай краіныз-за масавай антысанітарыі і недахопу чыстай вады імкліва распаўсюдзілася эпідэмія халеры, ахвярамі сталі сотні людзей.

**Мексіка.** Паблізу граніцы з ЗША паліцыя затрымала 105 тон наркотыкаў (марыхуаны), расфасаванай у 10 тысяч упаковак, па гэтай гучнай справе арыштавалі 11 злачынцаў.

**Францыя.** Місія АБСЕ накіравала 40 сваіх прадстаўнікоў для доўгатэрміновага назірання за прэзідэнцкімі выбарамі ў Беларусі, яшчэ каля 400 АБСЕ накіруе перад выбарамі.

**Украіна.** Ва ўсіх сферах эканомікі краіны праведзеная рэвізія выявіла факты татальнай карупцыі на 6,7 млрд. доляраў, розныя парушэнні выяўлены на 94 % прадпрыемстваў.

**Таджыкістан.** У краіне рэзка расце цікавасць да ісламскай рэлігіі, у магазінах і на рынках –шалёны попыт на хіджабы, якія купляе большасць маладых нявест.

**Фінляндыя.** У штогадовым сусветным індэксу «свабода слова» краіна выйшла на 1-е месца разам з Ісландыяй і Галандыяй, а вось Беларусь апусцілася з 151-га на 154-е месца.

**Швейцарыя.** Пасля скандалу з подкупам Сусветная федэрацыя футбола ФІФА прыпыніла членства ў выканкаме ўжо 6 чыноўнікаў, іх падкупілі Катар і Іспанія з Партугаліяй.

**Перу.** Краіна перадала суседняй Балівіі частку свайго невялікага прыбярэжнага ўчастка з выхадам да Ціхага акіяна, доступ да вады балівійцы страцілі пасля вайны з Чылі 1879 г.

**Грузія.** Толькі пасля падключэння МЗС Беларусі з турмы вызвалілі сям'ю з Брэста, якая ўехала на тэрыторыю Абхазіі з тэрыторыі РФ, за што магла сесці за краты ад 2 да 4 гадоў.

**Украіна.** Вядомы холдынг "Nemiroff" вырашыў пачаць у Мінску вытворчасць сваёй элітнай ліцэнзійнай гарэлкі з намерам заняць да 15 % рынку ў РБ.

**Данія.** Паблізу сталіцы, на ўскрайку Капенгагена, здалі вялізны 10-павярховы дом у форме гальштука-матыля, на кожны яго этаж жылсектара можна заехаць на веласіпедзе.

**Англія.** Упершыню каралева Елізавета II адмяніла калядную вячэру з удзелам 1200 гасцей у знак салідарнасці з брытанцамі, якія перажываюць цяжкасці, выкліканыя крызісам.

**ЗША.** Пяцігадовы кот Сцьюры пароды мэйнкун з горада Рына ў штаце Невада трапіў у Кнігу рэкордаў Гінеса як самы даўгі ў свеце з целам даўжынёй 1 метр 23,2 см.

# Ïàäçå³, ïðà ÿê³ÿ ãàâîðûöü Áåëàðóñü

**Мінск.** У самым багатым горадзе Беларусі прадукты харчавання за 9 месяцаў падаражэлі на 7,7 % у параўнанні з такім жа перыядам 2009 года, найбольш (на 30 %)– бульба і цукар.

**Пінск.** У выніку выбуху ў адным з цэхаў "Пінскдрэва" адбылося страшнае здарэнне: абвалілася 100 м2 перакрыццяў, загінулі і моцна абгарэлі больш за 20 яго работнікаў.

**Мінск.** Першы віцэ-прэм'ер РБ У. Сямашка назваў крайнім, найгоршым для Беларусі варыянтам прапанову Расіі аб увядзенні 100 % нафтавых пошлін і пры стварэнні АЭП.

**Гродна.** На фоне ўстойлівага зніжэння злачыннасці ў вобласці ўжо 50 вызваленых сёлета па амністыі мінулага года з калоній жыхароў зноў учынілі розныя злачынствы.

**Горкі.** Мясцовы малзавод стаў адзіным стратным у РБ з-за недахопу малака, райбюджэт недатрымаў 800 млн. рублёў, бо частку сыравіны загадана адсюль адгружаць у Магілёў.

**Іванава.** Пракуратура Брэсцкай вобласці распачала крымінальную справу супраць 40-гадовага ўчастковага маёра міліцыі, які згвалціў ноччу п'яную 17-гадовую дзяўчыну.

**Баранавічы.** За год у Лядовым палацы змяніўся ўжо трэці дырэктар, арэна пустуе і прыносіць штомесяц шматмільённыя страты, аднак у РБ хочуць узвесці іх яшчэ 30.

**Мінск.** Каардынатар кампаніі "За справядлівыя выбары" С. Калякін пацвердзіў, што пад татальнае кругласутачнае назіранне на выбарах Прэзідэнта ў РБ будзе ўзята 250 ўчасткаў.

**Пінск.** З-за замыкання электраправодкі на аўтобусным прыпынку загарэўся рэйсавы аўтобус, вадзіцель і пасажыры паспелі выратавацца, агонь знішчыў салон і маторны адсек.

**Гомель.** Упершыню мясцовы кінапракат пачаў акцыю "Выберы свой фільм", па яе выніках будзе сфарміраваны рэпертуар фільмаў на Новы год і калядныя канікулы.

**Быхаў.** Падчас асенняй рыбалкі на Дняпры рыбак-вадзіцель з Магілёва Мікалай Зенаў заместментуза вылавіў у рацэ рарытэтную старажытную шаблю, якой больш за 100 гадоў.

**Чавусы.** З цяжкімі траўмамі даставілі ў райбальніцу позна вечарам 15-гадовага вучня адной з мясцовых школ, які п'яным выпаў з акна пад'езда жылога дома на 4-м паверсе.

**Мінск.** Пасля 2-х гадовай рэканструкцыі ў аднoўленым дзяржцырку пад яго арэнай зрабілі водны басейн і лядовы манеж, якія мяняюцца за 20 хвілін, пры цырку будзе і гатэль.

**Брэст.** У абласным радзіцельным доме нарадзілася другая сёлета тройня малышоў, летась тут прынялі роды 4 трайні і 73 пары двайнят, Брэстчына – лідар у РБ па такіх родах.

**Барысаў.** Ля ўезду ў горад з боку Мінска за 1,5 гады будзе пабудаваны па славенскім праекце сучасны стадыён для футбольнага клуба БАТЭ, на будоўлю пойдзе 20 млн. еўра.

# Ïàíàðàìà ¢íóòðûàáëàñíûõ ïàäçåé

**Віцебск.** Запасы гатовай прадукцыі на складах у прамысловасці вобласці ў пачатку кастрычніка дасягнулі 472 млрд. рублёў, іх выпуск склаў 89,4 % да ўзроўню 2009 года.

**Наваполацк.** Будавацтва новае жыллё адмовіліся 3,5 тыс. сем'яў, палова з тых,хто тут на чарзе , але 400 чалавек папрасілі ўчасткі для ўзвядзення ўласных дамоў.

**Віцебск.** Па гарачых слядах міліцыя затрымала двух беспрацоўных, якія ноччу праз разлом у сцяне склада скралі 90 кг насення траў з фермерскай гаспадаркі "Дубрава".

**Ушачы.** У былым садку вёскі Глыбачка здалі шматфункцыянальны комплекс сельсавета, канторы калгаса, бальніцы, аптэкі, пошты, на гэты аграгарадок пайшло 4 млрд. рублёў.

**Верхнядзвінск.** Падчас пажару ноччу ў вёсцы Каханавічы загінуўў 18-гадовы хлопец, сведзі выратавалі яго равесніка, сына гаспадара, да бяды прывёў наўмысны падпал дома.

**Віцебск.** У ходзе спецаперацыі "Нагляд" міліцыя накіравала ў ЛПП яшчэ 176 раней судзімых грамадзян, сёлета амаль на 30 % па вобласці ўзрасла паўторная злачыннасць.

**Сянно.** У рэанімацыю райбальніцы з цяжкімі траўмамі змясцілі 29-гадовага рабочага, якога ледзь не забіла падчас вячэрняй сваркі яго равесніца – мясцовая жыхарка.

**Бешанковічы.** Новая станцыя абезжалезвання вады ў мястэчку Ула коштам 420 млн. рублёў нарэшце забяспечыла яго жыхароў якаснай пітной вадой –200 кубаметраў/суткі.

**Паставы.** Першых наведвальнікаў прыняў сучасны плавальны басейн з найноўшай сістэмай ачысткі вады, адзін сеанс (1 гадзіна) плавання каштуе 8 тысяч, дзецi – 4 тысячы.

**Браслаў.** Жыхароў краю, як і суседняга Пастаўскага раёна, парадавала падпісанае нарэшце пагадненне з Літвой аб узаемных паездках праз мяжу жыхароў прыгранічных тэрыторый.

**Верхнядзвінск.** На дарозе ў напрамку граніцы з Расіяй міліцыя позна вечарам затрымала аўтамабіль "Мерседэс", у якім жыхар Браслава перавозіў без дакументаў 2 тоны мяса.

**Лёзна.** Сям'я Вольгі і Васіля Саладухіных выйграла абласны этап конкурса "Уладар сяла", прывезла дамоў за перамогу наборы бытавой тэхнікі і посуду, а таксама парсючка.

**Віцебск.** У мясцовым заапарку пабудавалі басейн для новага жыхара – двухметровай змяі анаконды, яе перадалі сюды ў падарунак, рэптылія неядавітая, але вельмі страшная.

**Орша.** Міліцыя ўзбудзіла крымінальную справу супраць двух 17-гадовых ліцэістаў за выкраданне каня з незамкнёнай фермы ў вёсцы Стайкі, абое раней былі на ўліку.

**Гарадок.** На ажыўленай трасе Санкт-Пецярбург – Адэса аднавілі помнік архітэктуры – паштовую станцыю 19-га стагоддзя, у ёй зараз дарожная гасцініца і кафэ-бар на 16 месц.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

## Лічба нумара

**335** *млн. EUR* - за такую суму ў канцы кастрычніка буйная аўстрыйская кампанія Telekom Austria Group выкупіла апошнія 30 % дзяржпакета акцый другога па велічыні ў Беларусі аператара мабільнай сувязі Velkom "Мабільная лічбавая сувязь" (МЛС). Гэта айчынная кампанія прыйшла на беларускі рынак летам 1998 года сумесна з уласнікам з Кіпра, які 3 гады назад прадаў яе аўстрыйцам за 1,05 млрд. доляраў у два этапы.

Першы раз беларуская дзяржава атрымала ў кастрычніку 2007 года за 70 % акцый 730 млн. еўра, а цяпер - астатнюю суму грошай. Праўда, эксперты адзначаюць, што першы раз такі буйны продаж на тэлекамунікацыйным рынку праходзіў даволі скрытна. Не было тады конкурсу па продажы гэтай кампаніі, а маглі прыйсці, акрамя аўстрыйцаў, яшчэ некалькі замежных фірм, а таксама 2-3 вядучыя расійскія сотавыя кампаніі. Верагодна, на той час патрабавалася хутчэй атрымаць валюту.

Дарэчы, менавіта той восенню беларусам валюта была вельмі патрэбнай, бо яшчэ ў пачатку 2007 года, хто забыўся, Расія ўвяла спецпошліны на нафту, ад такога кроку тады Беларусь страціла амаль 1 млрд. доляраў. Вось ужо 3 гады, як наша краіна стала атрымліваць меншыя даходы ад продажу расійскай нафты і выробленых з яе нафтапрадуктаў на экспарт. Цяпер ад продажу дзяржпакета акцый "Вэлкома" падтрымка эканомікі Беларусі складзе невялікі перыяд часу – дзесяці на паўмесяца, бо прыток замежнай валюты ў РБ сёлета горшы, чым нават быў летась, калі дзяржава ўзяла ў доўг за мяжой 9,26 млрд. USD і вярнула сваім крэдыторам амаль 5 млрд. доляраў.

На гэтым фоне на наступны год, як стала вядома, кіраўніцтва Расіі вырашыла яшчэ больш ускладніць умовы паставак у Беларусь жыццёва важных газа і нафты. З Крамля паступілі сігналы, што наш сусед адмовіцца ад сваіх экспартных пошлін толькі ў рамках Адзінай эканамічнай прасторы і пры ўмове, што Беларусь стане пералічваць у расійскі бюджэт экспартныя пошліны на нафтапрадукты ў поўным аб'ёме. Пры гэтым расіяне папярэдзілі, што ўжо з 2011 года ў РФ і ў РБ могуць быць павышаны такія пошліны да 85-90 % ад стаўкі экспартнай пошліны на сырую нафту (зараз гэта стаўка ў расіян каля 55 %).

Гэты факт пацвярджае, што так палітычны праект, як "саюзная дзяржава", стаў практычна непрацуючай структурай. Але да гэтага ўсё ішло, паколькі мадэлі дзяржаўнай будовы Расіі і яе эканамічнай структуры і Беларусі сталі ўсё больш розніцца . Расійскім, у асноўным прыватным кампаніям, няпроста ў атмасферы айчыннага ўсёабдымнага дзяржкантролю і дырэктыўнага ціску весці нармальны бізнес з беларускімі партнёрамі. У нас адкрыта крытыкуюць амаль усё, што робіцца на прасторы ад Смаленска да Курыл і не прымаюць курсу РФ на "мадэрнізацыю" і пабудову новых адносін з ЕС, ЗША і астатнім светам з інтэграцыяй узаемадзеяння, які б адпавядаў патрэбам XXI стагоддзя.

Рэакцыя беларусаў на істотнае павышэнне экспартных пошлін была балючай, такія меры назвалі ва ўрадзе "несправядлівымі". Верагодна, усё ж і ў Крамлі востра рэагуюць на даволі паспяховыя спробы Беларусі атрымаць альтэрнатыўную венесуэльскую нафту, асабліва пасля падпісання пагаднення з кампаніяй "Петролеос дэ Венесуэла" на пастаўку ў 2011-2013 гадах 30 млн. тон нафты. Пры недахопе валюты Беларусь па прынцыпу бартэра згадзілася пастаўляць за акіян сваю прамысловую прадукцыю, будаваць жыллё і наладжваць працу сумесных прадпрыемстваў.

Такія шматмільённыя кантракты і новыя далёкія рынкі збыту, канешне, дапамогуць нашай краіне. Але цяперашняе становішча беларускай эканомікі пасля абвастрэння адносін з Расіяй вельмі ўстойлівым не назавеш. Па ацэнках спецыялістаў, у далейшым эканамічны рост Беларусі не будзе такім высокім, як раней, у межах росту ВУП каля 4 % у год. Толькі правядзенне структурных рэформ зможа дапамагчы павялічыць гэты паказчык, а значыць, і рост дабрабыту нацыі. Сталі многія гаварыць, што наш удзел у Мытным саюзе вялікай карысці нам не прыносіць, бо газ і нафта даражэюць. Як падлічана, з-за росту цэн на газ да 220 $ Беларусь у будучым годзе страціць каля 0,7 млрд. доляраў і ёй прыйдзецца жыць па наяўных сродках, калі сітуацыя з наплыўцём валюты і прытокам інвестыцый не палепшыцца.

# Археолагі даказалі, што на тэрыторыі Беларусі жылі вікінгі

**Археолагі знайшлі ў Віцебскай вобласці астаткі старажытнага паселішча вікінгаў, што даказвае, што прадстаўнікі названага народа жылі на тэрыторыі Беларусі.**

Пра гэта паведаміла загадчыца Цэнтра гісторыі даіндустрыяльнага грамадства Інстытута гісторыі НАН Беларусі доктар гістарычных навук Вольга Ляўко.

Субясedніца не ўдакладніла, дзе менавіта знойдзены астаткі паселішча, растлумачыўшы, што далейшаму даследаванню гэтай тэрыторыі могуць перашкодзіць «чорныя капальнікі».

Вольга Ляўко расказала, што ў час раскопак былі знойдзены элементы зброі і бытавыя прадметы, якія сведчаць аб тым, што знаходжанне вікінгаў на тэрыторыі Беларусі было не эпізадычным, транзітным, а пастаянным.

Сярод самых каштоўных знаходак — зліткі каляровых металаў, сярэбраны наканечнік ножан мяча, матрыца для адліўкі паясавых наканечнікаў дружыннікаў і іншыя.

Акрамя таго, археолагі знайшлі і месца пахавання аднаго з дружыннікаў-вікінгаў разам са збруяй і канём.

«Апошняе адкрыццё вельмі важнае для нас, — адзначыла Вольга Ляўко. — Гэты прыклад даказвае, што вікінгі ў нас жылі».

Спецыяліст таксама расказала, што ў Беларусі практычна не было навукова-даследчых работ, прысвечаных вікінгам. У бліжэйшыя гады вучоныя плануюць удзяліць гэтай тэме асаблівую ўвагу, плануецца вызначыць галоўныя асаблівасці побыту вікінгаў на тэрыторыі Беларусі. Ужо вядома, напрыклад, што іх паселішчы былі невялікімі і размяшчаліся недалёка ад паселішчаў мясцовых жыхароў.

Вікінгі — раннесярэдневяковыя скандынаўскія мараходы, якія ў VIII–XI стагоддзях рабілі марскія паходы ад Вінланда да Біярміі і ад Каспія да Паўночнай Афрыкі. У асноўным гэта былі свабодныя сяляне дацкага, нарвежскага і шведскага паходжання, якія качавалі за межамі родных краін у пошуках лёгкай нажывы. Па рэлігіі гэта былі ў асноўным язычнікі.

Інстытут гісторыі НАН Беларусі праводзіць фундаментальныя навуковыя даследаванні па гісторыі і археалогіі, выконвае археалагічныя раскопкі, а таксама арганізуе экспертызу важнейшых навуковых праграм і праектаў у культурна-гістарычнай сферы.

БЕЛТА

# На беразе Шошы знойдзеныя вельмі старажытныя курганы

■ Ул. Скрабатун

10 кастрычніка гг аўтар гэтых радкоў і Кастусь Бахір, марафонец і аматар вандровак, выправіліся наведаць Галубоў Сад, што на беразе возера Доўгае. У Зябках мы "прыхапілі" з сабой Юрыя Пілімона, настаўніка Зябкаўскай базавай школы. Галубоў Сад мы, натуральна, наведалі, нават пакупаліся ў возеры Доўгім, самым глыбокім на Беларусі.

Аднак пра Галубоў Сад мы напішам пазней, бо менавіта тут Юрый Пілімон прапанаваў далейшы маршрут.

– Паказаць вам курганы, пра якіх ніхто не ведае! Нават археолагі! Едзем?

– Едзем! – кажам дружна.

Мінуўшы Калечполе і Лотышы, праехаўшы дзесьці каля 15 кіламетраў, мы патрапілі ў тое месца Галубіцкай пушчы, якое мне да болі знаёмае – менавіта сюды мы прыязджаем штогод за баравікамі і лісічкамі. Быў я тут разоў 30-35 за апошнія 15 гадоў. Рака Шоша. Абеліск. Месца дыслакацыі партызанскай брыгады. Ніколі не падазраваў, што трэба было прайсці яшчэ нейкіх лішніх 300 крокаў па лясной дарожцы ўздоўж ракі, каб убачыць гэтыя валатоўкі.

Курганы вельмі вялікія: у вышыню, на выгляд, у два маіх росты. Колькі іх тут? Не лічылі. Але з дзясятак было. Некаторыя курганы здвоеныя – насыпаныя ўпрытык адзін да другога.

Натуральна, аўтар гэтых радкоў вырашыў атрымаць каментар прафесійнага археолага. Фотаздымкі і схема лакалізацыі курганаў на карце былі дасланыя ў Мінск.


Адзін з курганоў на беразе ракі Шошы.

Па меркаванні археолага Марата Клімава, кандыдата гістарычных навук, навуковага супрацоўніка Інстытута гісторыі Нацыянальнай Акадэміі Навук Беларусі, гэтыя курганы, якія згаданыя ў нашым матэрыяле, – невядомыя. Ва ўсякім разе, у 2002 годзе, калі праводзілася апошняя фіксацыя археалагічных аб'ектаў, пра іх ніхто не чуў.

Як сцвярджае Марат Клімаў, курганы на беразе ракі Шошы, верагодна, адносяцца да ранняй стадыі курганнай культуры, іх можна датаваць IX-X стагоддзямі. Насыпаныя яны, хутчэй за ўсё, вялікай патрыярхальнай сям'ёй і ўяўляюць сабой калектыўнае пахаванне родзічаў адной сям'і. З гэтага можна зрабіць высноўу, што яны насыпаныя не паводле абрада трупапахавання, а паводле абрада трупаспалення, які тады існаваў.

Пад курганам можа і не быць рэшткаў трупаспалення. Звычайна прах развейвалі альбо клалі на верх кургана. Такія курганы не ўтрымліваюць ў сабе і ніякага інвентару (гаршчкі, сякеры, бранзалеты і г.д…). Яны пустыя. Курганы такога тыпу, як правіла, археолагамі не даследуюцца.

Зразумела, што чорным капальнікам туды можна і не ехаць, бо там ім нічога не свеціць. Курганы – сімвалічныя.




# Дуб Напалеона ў Бешанковічах спілавалі

■ Сяржук Серабро

Ад старажытнага дуба ў Бешанковічах, пад якім, па мясцовым паданні, у 1812 годзе французскі імператар Напалеон I пазіраваў мастаку, застаўся толькі ствол. Усе магутныя галіны дрэва ўжо зрэзаныя, а ў хуткім часе, верагодна, у чурбакіператворыцца і тое, што яшчэ стаіць.

Па словах навуковага супрацоўніка Бешанковіцкага раённага гісторыка-краязнаўчага музея Анатоля Крачкоўскага, дуб пачалі пілаваць 28 кастрычніка. У камісію, якая нібы дала дазвол на знішчэнне помніка прыроды, нікога з музея не запрашалі. Спадар Крачкоўскі звярнуўся за тлумачэннямі да начальніка раённай інспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Дзмітрыя Талстога, які растлумачыў, што існуе пагроза падзення дуба на тэрыторыю школы і з просьбай аб валцы дуба звярнуліся настаўнікі. Аднак у асабістай гутарцы настаўнікі гэтага не пацвердзілі. Дакументаў з рашэннем камісіі і дазволам спілаваць шматвяковае дрэва Талстой Крачкоўскаму таксама не прадставіў.



Бязлітасна знішчаны чатырохсотгадовы дуб быў каля 30-ці метраў у вышыню і меў у папярочніку каля 2-х метраў. Дрэва раней было агароджана плотам і мела таблічку, што гэта помнік прыроды, які ахоўваецца дзяржавай. На жаль, нядаўна побач з дубам праклалі цеплатрасу, магчыма, з-за гэтага некалькі галін усохлі і іх спілавалі. У астатнім жа дуб заставаўся ў прыстойным выглядзе і яшчэ гэтым летам меў пышную крону. Ён расце ў палацава-паркавым комплексе Храптовічаў, які з'яўляецца гісторыка-культурнай каштоўнасцю 2-й катэгорыі рэспубліканскага значэння.



Хоць у Бешанковічах пабывала нямала расійскіх імператараў, легенда звязвае дуб з Напалеонам Банапартам — быццам бы ён менавіта пад гэтым дрэвам пазіраваў мастаку. Сапраўды, 12 і 13 ліпеня французскі імператар знаходзіўся ў Бешанковічах разам з італьянскім віцэ-каралём Яўгенам Багарне і неапалітанскім каралём Мюратам. Разам з Багарне падарожнічаў германскі мастак Альбрэхт Адам, захавалася яго карціна «Напалеон і яго войскі пад Бешанковічамі».

Як адзначыў Анатоль Крачкоўскі, крыўдна тое, што за час нямецкай акупацыі нацысцкія захопнікі не знішчылі ў парку ніводнага дрэва, а цяпер дрэў застаецца ўсё менш і менш.

На жаль, нашаму карэспандэнту не атрымалася сустрэцца з начальнікам Бешанковіцкай раённай інспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Дзмітрыем Талстым — чамусьці, нягледзячы на працоўны час, яго кабінет быў зачынены на замок.

*http://news.vitebsk.cc*

# «Бацькоўскі дом – пачатак пачаткаў»

■ Ул. Скрабатун

Памятаецца, у далёкія ўжо "перабудовачныя" часы прачытаў у газеце "Літаратура і мастацтва" цікавую нататку. Аўтар яе, калі не памыляюся, пісьменнік Барыс Сачанка. Ён пісаў, што ў Францыі фактычна кожны выпускнік сярэдняй школы змога быць гідам па краіне. Зразумела, аўтар у гэтым пераканаўся на сваім уласным прыкладзе, калі наведаў Францыю і ім апекавалася адна маладая асоба. Аказваецца, гэтаму спрыяе тое, што на працягу вучобы французскія школьнікі пішуць сачыненні, тэмай якіх "Замкі Францыі", "Масты Францыі", "Віны Францыі", "Сыры Францыі"…

Пару гадоў таму быў вельмі ўражаны, калі да аўтара гэтых радкоў завіталі школьнікі па кансультацыю. Настаўніца дала заданне напісаць рэферат "Глыбоцкая чыгунка". Потым прыходзілі па тэме – "Лекар Міхал Алехна-Гушча". А вось мая пляменніца Юля нядаўна займалася тэмай "Ледавіковы перыяд на Глыбоччыне".

Як бачым – ўжо і мы не адстаём ад Францыі! Чарговы раз пераканаўся ў гэтым, калі класны кіраўнік Даната Мар'янаўна Сярогіна запрасіла аўтара на вечарыну ў СШ №3, якую ладзілі яе выхаванцы. А тэма – "Бацькоўскі дом – пачатак пачаткаў".

Вечарыну ладзілі вучні 11 «Б» класа. Прыйшлі іх бацькі. Чынны ўдзел у арганізацыі вечарыны бралі і вучні 11 «В» класа. Вялікую дапамогу ў правядзенні вечарыны аказала настаўніца інфарматыкі Лідзія Анатольеўна Раманчук, якая разам з вучнямі рабіла мантаж слайд-шоў.

Традыцыйна на такія вечарыны, дзе ідзе размова аб бацькоўскім доме, сям'і, запрашаюцца святары нашых двух хрысціянскіх канфесій: айцец Сергій – праваслаўнай і ксёндз Андрэй – каталіцкай.

– У гэтым доме мы ўпершыню вымаўляем слова "мама", упершыню робім такія нясмелыя, няўпэўненыя крокі. Мы глядзім навокал з дзіцячай цікавасцю і адкрываем для сябе свет, спрабуем пазнаць яго, дакрануцца да чагосьці нязвыклага і незразумелага. Мы проста пачынаем жыць. Тут. У бацькоўскім доме. Такімі словамі адкрыла вечарыну вядоўца Алена Шнітко.

– Зараз бацькоўскі дом для нас – гэта тое месца, дзе прайшло наша дзяцінства,– працягвае другі вядоўца Андрэй Шчарбіцкі.–Тая рэчка, што вабіла сваёй прахалодай, і той жаўрук, што спяваў песню над дзіцячай галоўкай. Гэта было нашым Пачаткам. У розныя гады свайго жыцця мы зноўку будзем вяртацца сюды, зноўку пачынаць чэрпаць сілы і веды ад бацькоўскага дому і несці іх у шырокі свет. І як бы ні змяняліся за гэты час нашы ўяўленні аб доме, ён усё роўна будзе тым маяком, які асвятляе нашу дарогу ў цемры чалавечага існавання. Гэта дарога нязменна пачыналася каля бацькоўскага парога, да якога мы, змучаныя, знясіленыя ад цяжкіх выгінаў і ўхабінаў жыцця, потым зноўку вярталіся.

Тэма бацькоўскага дома, сям'і цесна звязана з такім паняццем, як радавод. Таму на вечарыне былі зачытаныя лепшыя вучнёўкія работы на тэму "Мой радавод". Вучні, як адзначыла Даната Мар'янаўна, спачатку скептычна ставіліся да задання. Маўляў, адкуль нам тое ведаць! Аднак, пагартаўшы сямейныя фотаальбомы, распытаўшы тату і маму, бабулю і дзядулю, з энтузіязмам узяліся за напісанне свайго радаводу. Хтосьці раскрыў свой радавод нават з канца XIX–пач. XX стагоддзя.


Айцец Сергій.


Ксёндз Андрэй.

"Маё прозвішча Пялінак,– чытае са сцэны сваю працу Арцём Пялінак, вучань 11 «В» класа. Прозвішча вельмі рэдкае, і цяжка сказаць, адкуль яно паходзіць. Па Беларусі прозвішча сустракаецца ў Полацку, Наваполацку, Брэсце. Ёсць сваякі ў Санкт-Пецярбургу. У Глыбоцкім раёне людзі з прозвішчам Пялінак пражываюць у вёсках Мацюкова, Задарожжа, Пліса, Гаравыя, Мярэцкія, Крулеўшчына. Па выніках нашых пошукаў яны ўсе з'яўляюцца сваякамі. А ў нашым горадзе гэта прозвішча толькі ў нашай сям'і. Я хачу распавесці аб некаторых сваяках, якія, на мой погляд, з'яўляюцца цікавымі асобамі. Гэта Пялінак Георгій і Пялінак Вячаслаў, Дзягель Алена Іосіфаўна.

**Пялінак Георгій** – вядомы кардыяхірург Брэсцкай абласной бальніцы. Ён з'яўляецца адным з нямногіх кардыяхірургаў, якія могуць рабіць складанейшыя аперацыі і на працуючым, і на спыненым сэрцы, якія патрабуюць асобай кваліфікацыі ўрачоў.

**Пялінак Вячаслаў** – пробашч касцёла ў горадзе Барысаве. Чалавек вельмі цікавы і адукаваны. Скончыў Гродзенскую духоўную семінарыю, Люблінскі каталіцкі ўніверсітэт, які скончыў са ступенню магістра ў 1999 годзе на кафедры тэалогіі і Папскі гуманістычны ўніверсітэт "Іерусалім", які скончыў са ступенню кандыдата навук з правам навучання ў еўрапейскіх гуманітарных універсітэтах. Там вучыўся на аддзяленні сацыяльных навук, культуры і духоўнасці.

Вядомым чалавекам па мамінай лініі з'яўляецца **Дзягель Алена Іосіфаўна**. Яны доўгі час працавала старшынёй калгаса "Перамога" ў нашым раёне з 1984 па 2001 год. У час яе старшынства ў калгасе дамагліся вялікіх працоўных поспехаў. Але самае цікавае тое, што ў бытнасць старшынёй калгаса (а ў мінулым сакратар партыйнай арганізацыі калгаса) пабывала на аўдыенцыі ў Папы Рымскага, размаўляла з ім на беларускай мове і атрымала благаслаўленне менавіта ў дзень сваіх народзінаў – 22 чэрвеня."

Нельга без хвалявання слухаць радкі, якія зачытала Анастасія Галяк з успамінаў сваёй прабабулі:

«... Здавалася, так будзем жыць заўсёды. Але ў снежні 1929 года прыйшлі актывісты. Усё, што было ў нас, забралі. Выцягнулі куфар з рэчамі, са скрыняў выграблі муку, забралі бідоны з маслам, бульбу, садавіну, мяса. Усё вывезлі на конях. Прыйшлося ўсё пачынаць наноў ужо ў вёсцы Васілінкі».

Натуральна, што ўсе зачытаныя вучнёўскія працы суправаджалі паказам слайдаў – фотаздымкаў з сямейных альбомаў.

На вечарыну завітаў і колішні дырэктар СШ №3 Віталь Рыгоравіч Гарановіч, паэт, які са сцэны прачытаў свае вершы, якія адпавядалі тэматыцы вечарыны. Зрэшты, і некаторыя вучні школы робяць свае першыя крокі ў паэзіі, што і ўбачылі і пачулі прысутныя на вечарыне.

А раз вечарына, то якая вечарына без мастацкай самадзейнасці – без песняў і танцаў?

Упрыгожвалі сваімі спевамі вечар-разважанне Дзіяна Букоўская і Дарына Місюль, вучаніцы 10 «Б».



**Алена Шнітко, вядоўца:**
**– Усе вы добра ведаеце гэтую літару. Яна называецца вельмі проста – «ДЭ». На стараславянскай мове яна гучыць як «добра». А знешне на што яна падобная? Правільна, на дом. Рускія сяляне так і называлі гэтую літару – «дом».**
**Дом захоўвае чалавека ад усяго злога, усяляких бед. Ён дае цяпло, утульнасць, спакой. Абараняе ад холада, дажджу, ветру. У ім мы спім, ядзім, працуем, няньчым дзяцей, молімся Богу. Дом – гэта цэлы свет.**


Даната Мар'янаўна Сярогіна ў кампаніі двух дырэктараў школы: цяперашняга Васіля Аляксандравіча Любозы і колішняга Віталя Рыгоравіча Гарановіча.



Слайд-шоў. Прэзентацыя радавода Арцёма Пялінка, 11 «В» клас.



Арцём Пялінак і Вольга Мяцеліца (справа) чытаюць свой радавод.

Слайд-шоў. Прэзентацыя радавода Вольгі Мяцеліцы, 11 «В» клас.

# За адзін тыдзень месяца канфіскавана 1 км браканьерскіх сетак

**А.В. Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

Штотыдзень супрацоўнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету выяўляюць парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства, затрымліваюць парушальнікаў у лясах і на азёрах раёна. Так, 28 кастрычніка 2010 года падчас правядзення рэйдавых мерапрыемстваў на возеры Свядава затрыманы мясцовы жыхар грамадзянін К., які ажыццяўляў лоўлю рыбы 3 сеткамі, парушальніка чакае грашовы штраф.

На гэтым жа возеры супрацоўнікі інспекцыі затрымалі грамадзяніна П., жыхара г. Наваполацка, які ажыццяўляў лоўлю рыбы тролінгам, пры гэтым дазваленчых дакументаў у яго не было, у адносінах парушальніка складзены адміністрацыйны пратакол, яго чакае штраф ад 10 да 50 базавых велічынь. Для ажыццяўлення рыбалкі інтэнсіўным спосабам (тролінгам, дновай вудай ад 11 да 20 кручкоў, падводнае паляванне) грамадзянам неабходна мець вызначаныя дакументы і лавіць рыбу толькі на асобна вылучаных вадаёмах.

Паводле распараджэння Глыбоцкага раённага выканаўчага камітэта №243 ад 26 лютага 2010 года, з 1 чэрвеня бягучага года ў фондзе запасу рыбалоўных угоддзяў Глыбоцкага раёна аматарскае рыбалоўства інтэнсіўнымі спосабамі лоўлі рыбы можна ажыццяўляць у светлы час сутак на наступных вадаёмах: азёры Алойсберг, Сетаўскае, Вялец, Арэхаўскае, Мядзвёдкаўскае, Акунёўскае, Вялікі Супонец, Дварэцкае, Забельскае, Кагальнае, Вялікае, Падлазнае, Івесь, Псуя, Станульскае, Мушкат, Камінскае.

На вышэй згаданых азёрах можна ажыццяўляць лоўлю рыбы ўсімі відамі інтэнсіўнага спосабу лоўлі, г.зн. з ужываннем кручкоў ад 11 да 20 штук на рыбалова, лоўля рыбы на дарожку і з судоў з рухавікамі, а таксама падводнае паляванне, але толькі рыбаловам-аматарам, якія з'яўляюцца членамі РГГА БТПР, што маюць дакументы аб праходжанні курсаў падводнага стралка. Усе неабходныя дакументы павінны быць пры сабе і сапраўдныя на момант лоўлі рыбы, у выпадку адсутнасці дакументаў або дакументы несапраўдныя (не выплачана дзяржпошліна, скончаны тэрмін дзеяння квітка і г.д.) падчас лоўлі рыбы інтэнсіўным спосабам, дадзеныя дзеянні з боку грамадзян будуць разглядацца як незаконная здабыча рыбы, што цягне адміністрацыйную адказнасць па ч.1 арт. 15.35 Ко АП Рэспублікі Беларусь і накладанне штрафу ў памеры ад 10 да 50 базавых велічынь з канфіскацыяй ці без канфіскацыі прылад рыбалоўства. (Касцюма для падводнага палявання, стрэльбы для падводнага палявання, лодкі, спінінга, вуд) Просьба быць уважлівымі і пры неабходнасці звяртацца за тлумачэннямі ў Глыбоцкую міжраённую інспекцыю аховы жывёльнага і расліннага свету.

Шматлікія грамадзяне саманадзейна думаюць, што іх неправамерныя дзеянні застануцца незаўважанымі і яны змогуць пазбегнуць адказнасці, але калі парушальнікаў ловяць, пачынаецца паніка, маленне аб прабачэнні, успамінаюць пра маленькія зарплаты і пра ўзятыя ў банках крэдыты, але прыродаахоўныя органы крэдытаў на незаконную лоўлю рыбы не выдаюць, а вось на аплату штрафу ці шкоды, прычыненай прыродзе, парушальнік, магчыма, будзе браць крэдыт.

Толькі за адзін тыдзень месяца супрацоўнікамі інспекцыі ў парушальнікаў канфіскавана 1 км браканьерскіх сетак, спадзяемся, што нашы азёры сталі трошкі чысцейшымі ад браканьераў і браканьерскіх сетак.

Лічу неабходным нагадаць грамадзянам, што забараняецца стаянка аўтатранспарту бліжэй, чым за 30 метраў ад берагавой лініі вадаёма (штраф да 20 б.в.), а таксама мыццё аўтатранспарту ў межах водаахоўнай зоны вадаёма (штраф да 20 б.в.), выкід смецця ў водаахоўнай зоне цягне накладанне штрафу да 20 б.в.

Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць на тэлефон «гарачай лініі» Глыбоцкай міжрайінспекцыі : 8-02156-2-86-70, мабільныя тэлефоны інспектараў: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49 (МТС), 351-28-12 (Велком).

## Трансфарматарныя падстанцыі не месца збору металалому

**А.Н. Ішуцін,**
*інспектар энергаінспекцыі Глыбоцкага МРА « Энерганагляду»*

Ёсць добрая народная мудрасць - бясплатны сыр можа быць толькі ў пастцы. Але вельмі часта знаходзяцца людзі, якія жадаюць пажывіцца дармаўшчынай.

Жыхар г. Кобрына Брэсцкай вобласці, які часова не працуе, пры дапамозе манціроўкі адкрыў двухстворкавыя металічныя дзверы РУ-10 кв, зачыненыя на ўнутраны замок, і самавольна пракраўся ў дзейсную трансфарматарную падстанцыю, наблізіўшыся на недапушчальную адлегласць да токаводных частак, быў паражоны электрычным токам.

**Нагадваем, што:**

● пранікненне ў дзейсныя электраўстаноўкі;

● набліжэнне на недапушчальна блізкую адлегласць да токаводных частак, змешчаных пад напругай;

● пападанне пад дзеянне «крокавай напругі», якая ўзнікае ў зоне абрыву і падзення на зямлю праваду ліній электраперадачы, **нясе ў сабе смяротную небяспеку.**

Паважаныя грамадзяне, калі Вы ўбачыце адкрытыя дзверы трансфарматарных падстанцый, электрашчытавых, неадкладна паведаміце пра гэта ў дыспетчарскую службу Глыбоцкіх раённых электрасетак па тэлефоне 2-62-41 ці ў Глыбоцкае міжраённае аддзяленне «Энерганагляду» па тэлефоне 2-80-43.








**Віншуем**
*Антаніну Пілімон*
**з Днём нараджэння!**

Будь самой веселой и самой счастливой,
Хорошей, и нежной, и самой красивой,
Будь самой внимательной, самой любимой,
Простой, обаятельной, неповторимой,
И доброй, и строгой, и слабой, и сильной,
Пусть беды уходят с дороги в бессилии
Пусть сбудется все, что ты хочешь сама.
Любви тебе, веры, надежды, добра!

*Тата, мама, сястра Паліна, брацік Ільюша*

*Тэрэзу Сцяпанаўну Бартасевіч*
**Віншуем з Днём нараджэння!**

Дзянькі ўсё карацеюць, уплываюць,
І з кожным з іх усё менш і менш цяпла.
Няхай цябе звёзды саграваюць
Муж, дзеці, унукі і ўся радня.
І ў дзень твайго, сястрыца, нараджэння
Хачу табе я шчыра пажадаць
Здароўя, шчасця, радасці, вяселля
Ды недастатку ні ў чым не знаць.

*Сястра Францішка.*

*Алега Барысавіча Парфяновіча*
**Віншуем з днём нараджэння!**



Сегодня, в день рожденья твой,
Желаем сердцем и душой
Здоровья, бодрости и смеха,
Во всех делах твоих успеха!
Прими ты поздравленья,
Частицу нашего тепла,
Желаем крепкого здоровья,
Уюта, счастья и добра.

*Родныя.*

## МНС інфармуе:

(па стане на 01.11.2010)

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 1212;
Гібель – 174 чалавекі, з іх дзяцей няма;
Урон – 2 502 300 000 рублёў;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 53;
Гібель – 6 чалавек, з іх дзяцей няма;
Урон – 101 530 000 рублёў.

## Мосар запрашае на штогадовыя «Дні Апекі перад успамінам Маці Божай Вастрабрамскай, Маці Міласэрнасці»

**Маці Міласэрнасці з Вострай Брамы ў Вільні ўшаноўваецца ўсімі хрысціянамі як заступніца Беларусі і Літвы. На землях даўняй Віленшчыны яе абраз знаходзіцца ў шматлікіх святынях, як каталіцкіх, так і праваслаўных, а таксама ў дамах вернікаў.**
**У Мосары, у капліцы Маці Міласэрнасці, штогод праходзяць «Дні Апекі Маці Божай» і малітва Навэнны. У гэтым годдзе «Дні Апекі" пройдуць на тэму: "Марыя – Слуга Бога і людзей".**

### Праграма «Дзён Апекі Маці Божай Міласэрнасці»:



**7. 11. – нядз. – Першы дзень Навэнны.**
9:00 – Гадзінкі да Маці Божай.
11:00 – Адарацыя Найсвяцейшага Сакрамэнта.
12:30 – Ружанцовая малітва.
13:00 – Святая Імша з Працэсіяй.
– Навэнна і літанія да Маці Божай Міласэрнасці.

**8. 11. – пан. – Другі дзень Навэнны.**
9:00 – Гадзінкі да Маці Божай.
15:00 – Адарацыя Найсвяцейшага Сакрамэнта.
16:30 – Ружанцовая малітва.
17:00 – Святая Імша.
– Навэнна і літанія да Маці Божай Міласэрнасці.

**9. 11. – аўт. – Трэці дзень Навэнны.**
6:30 – Святая Імша.
– Навэнна і літанія да Маці Божай Міласэрнасці.
9:00 – Гадзінкі да Маці Божай.
16:30 – Ружанцовая малітва.

**10. 11. – сер. – Чацвёрты дзень Навэнны.**
9:00 – Гадзінкі да Маці Божай.
15:00 – Адарацыя Найсвяцейшага Сакрамэнта.
16:30 – Ружанцовая малітва.
17:00 – Святая Імша.
– Навэнна і літанія да Маці Божай Міласэрнасці.

**11. 11. – чацв. – Пяты дзень Навэнны.**
9:00 – Гадзінкі да Маці Божай.
15:00 – Адарацыя Найсвяцейшага Сакрамэнта.
16:30 – Ружанцовая малітва.
17:00 – Святая Імша.
– Навэнна і літанія да Маці Божай Міласэрнасці.

**12. 11. – пятн. – Шосты дзень Навэнны.**
9:00 – Гадзінкі да Маці Божай.
15:00 – Адарацыя Найсвяцейшага Сакрамэнта.
16:30 – Ружанцовая малітва.
17:00 – Святая Імша.
– Навэнна і літанія да Маці Божай Міласэрнасці.

**13. 11. – суб. – Сёмы дзень Навэнны.**
9:00 – Гадзінкі да Маці Божай.
15:00 – Адарацыя Найсвяцейшага Сакрамэнта.
16:30 – Ружанцовая малітва.
17:00 – Святая Імша.
– Навэнна і літанія да Маці Божай Міласэрнасці.

**14. 11. – нядз. – Восьмы дзень Навэнны.**
9:00 – Гадзінкі да Маці Божай.
11:00 – Адарацыя Найсвяцейшага Сакрамэнта.
12:30 – Ружанцовая малітва.
13:00 – Святая Імша аб цвярозасці беларускага грамадства.
– Навэнна і літанія да Маці Божай Міласэрнасці.

**15. 11. – пан. – Дзявяты дзень Навэнны.**
9:00 – Гадзінкі да Маці Божай.
15:00 – Адарацыя Найсвяцейшага Сакрамэнта.
16:30 – Ружанцовая малітва.
17:00 – Святая Імша.
– Навэнна і літанія да Маці Божай Міласэрнасці.

**16. 11. – аўт. – Святкаванне і ўшанаванне Апекі Маці Божай.**
6:30 – Святая Імша.
9:00 – Гадзінкі да Маці Божай.
10:00 – Адарацыя Найсвяцейшага Сакрамэнта.
12:30 – Ружанцовая малітва.
13:00 – Урачыстая Святая Імша пры адкрытым акне капліцы.
(вул. Цэнтральная
211807, в. Мосар, Глыбоцкі раён
Т. 8-02156-32949.)

**Кс. Аляксей Юркайць.**
/Адміністратар парафіі Мосар//

# Êîêà-êîëà: «ï³öü ö³ íå?»

**Кока-кола - адзін з самых папулярных у свеце газіраваных напояў з багатай (больш за 120гадоў) гісторыяй. Ён быў вынайдзены ў далёкім 1886 годзе амерыканскім доктарам Джонам Пембертонам, спачатку прадаваўся толькі ў аптэках у выглядзе сіропу, і толькі потым яго сталі змешваць з газіраванай вадой.**

**Сапраўдны склад кока-колы дагэтуль не быў апублікаваны. Усе існуючыя версіі - гэта толькі здагадкі, арыгінальная рэцэптура трымаецца вытворцам у сакрэце. Але, нягледзячы на гэта, шматлікія лабараторныя даследаванні напою дазваляюць рабіць высновы пра наяўнасць некаторых інгрэдыентаў.**




Лічыцца, што ў момант з'яўлення кока-колы яе асноўнымі інгрэдыентамі з'яўляліся арэх колы, багаты кафеінам, і куст кокі, які ўтрымлівае какаін. Пазней, як толькі сталі вядомыя небяспечныя ўласцівасці какаіну, ён быў выключаны з рэцэптуры, пакінуўшы памяць пра сябе ў назве напою. Смак сучаснай кока-колы атрымліваецца за кошт дадання ваніліну, цытрынавай эсэнцыі і масла гваздзікі. А вось усе астатнія складнікі, мабыць, за выключэннем вады і цукру,- цалкам хімічныя злучэнні.

**Дыяксід вугляроду (Е290) і бензаат натрыю (Е211)**

Выкарыстоўваюцца ў харчовай прамысловасці для кансервавання мясных і рыбных вырабаў, розных соусаў, маргарыну, гароднiны, садавіны, ягад і напояў. Бензаат натрыю выкарыстоўваюць яшчэ і ў фармакалогіі пры вытворчасці лекаў ад кашлю. Прадукты з яго ўтрыманнем не пажадана ўжываць людзям, у якіх выяўлена павышаная адчувальнасць да аспірыну. Акрамя таго, у спалучэнні з вітамінам С бензаат натрыю ператвараецца ў бензол - адзін з наймацнейшых канцэрагенаў.

**Ортафосфорная кіслата (Е33 )**

Яе ўжываюць у роўнай ступені як для вытворчасці газіраванай вады, так і для вытворчасці ўгнаенняў і тэкстылю. У вялікіх колькасцях разбурае зубы і вымывае кальцый з костак.

**Аспартам (Е951)**

Выкарыстоўваецца пры вытворчасці дыетычных газаваных напояў і жавальнай гумкі "без цукру" ў якасці цукразамяняльніка. Гэта сінтэтычны элемент, у склад якога ўваходзіць фенілаланін, вядомы тым, што выпрацоўвае ў арганізме запасы "гармона шчасця" - сератаніну. Адгэтуль ўзяліся дэпрэсіі, раздражняльнасць, злосць і паніка. Трапляючы ў рот, малекулы аспартаму застаюцца на слізістай, і сліне з цяжкасцю атрымліваецца іх адтуль выдаліць, як следства - пачуццё смагі і новая порцыя кока-колы.

Трэба адзначыць, што аспартам афіцыйна забаронены ў Еўрапейскім Саюзе для выкарыстання ў дзіцячым харчаванні і не рэкамендуецца да ўжывання падлеткамі.

**Цукровы колер (Е150)**

Ужываецца як фарбавальнік для надання кока-коле звыклага колеру, ствараецца штучна, што не дадае гэтаму напою карыснасці.

Што да цукру, то, як і ў любой іншай салодкай газіраванай вадзе, у кока-коле яго ўтрымліваецца вельмі і вельмі шмат, каля шасці лыжак на шклянку, амаль максімальная норма для чалавечага арганізма ў дзень. Акрамя таго, у кока-коле прысутнічае кафеін, які прыводзіць да бяссонніцы і зніжэння агульнага тонусу.

**Ці варта піць кока-колу?**

Празмернае ўжыванне кока-колы аказвае шкоднае ўздзеянне на ўвесь жаночы арганізм.

**Па-першае,** салодкія газаваныя напоі абвастраюць захворванні страўнікава-кішэчнага тракту і могуць выклікаць нават у здаровых людзей нястраўнасць. Панкрэатыт, іншыя хваробы падстраўнікавай залозы таксама могуць быць справакаваны кока-колай.

**Па-другое**, любоў да кока-колы прыводзіць да дэфіцыту калію. Упаўшы да небяспечнага ўзроўню, ён можа стаць прычынай паражэння мышачнай тканіны і ў самай крытычнай сітуацыі давесці да паралічу. Нізкі ўзровень калію ў крыві - гэта і апатыя, мышачная слабасць і страта апетыту.

**Па-трэцяе**, кока-кола па колькасці калорый апярэджвае нават піва, а значыць, седзячы на строгай дыеце, але спаталяючы смагу гэтым напоем, вы зводзіце ўсе свае намаганні на "не".

Падводзячы вынік вышэйсказанаму, можна сказаць, што кока-кола - непажаданы прадукт для рацыёну сучаснай паспяховай жанчыны і катэгарычна не рэкамендуецца падлеткам і цяжарным жанчынам.

**Выкарыстанне кока-колы ў побыце**

Аказваецца, кока-кола– гэта не толькі газіраваны напой, але яшчэ і незаменны сродак у хатняй гаспадарцы. Ёй можна чысціць туалет і ракавіны, калі заліць і не змываць на працягу гадзіны; можна выкарыстоўваць як плямавыводнік, дадаўшы пры мыцці асабліва брудная бялізны; можна асвяжыць мельхіёравыя і бронзавыя вырабы.

Аўтааматары могуць паспрабаваць адцерці кока-колай іржу з храміраваных дэталяў машыны.

Акрамя таго, вы можаце дапамагчы свайму маладому чалавеку адкруціць заржавелы болт, намачыўшы анучу ў кока-коле і абматаўшы ёй гэты болт на некаторы час.

# Ó Áåëàðóñ³ ïà÷ûíàþöü ìàñàâà ï³öü ç 13 ãàäî¢



Алена Спасюк, БелаПАН

**У Беларусі пачынаюць ужываць алкаголь усё ў больш маладым узросце,паведаміў загадчык аддзела наркалогіі РНПЦ псіхічнага здароўя Андрэй Капытоў 29 кастрычніка ў Мінску на рэспубліканскім семінары «Актуальныя праблемы залежных паводзін».**

Паводле яго слоў, яшчэ некалькі гадоў таму ўжываць спіртное пачыналі пасля 15 гадоў, зараз жа ў клініках усё часцей сустракаюцца трынаццацігадовыя падлеткі, у якіх алкагольныя псіхозы і эпілептычныя прыступы.

«Гэта не ўкладваецца ў галовах спецыялістаў, якія доўга працуюць у псіхіятрыі. Аб такіх выпадках не гаворыцца ні ў адным класічным падручніку», — адзначыў лекар. У 50% выпадкаў маладыя людзі, якія ўжываюць алкаголь, упершыню паспыталі яго ў сваёй сям'і, казаў Капытоў. Разам з тым аналіз наркалагічнай службы сведчыць, што калі падлетак пачынае выпіваць у кампаніі малазнаёмых людзей, працэс алкагалізацыі ідзе хутчэй і маладыя людзі хутчэй співаюцца.

Паводле звестак наркалагічнай службы, больш высокая рызыка трапіць у алкагольную залежнасць у моладзі з нізкім узроўнем адукацыі, а таксама ў тых, хто выхоўваецца ў сем'ях, дзе або абыякава ставяцца да дзяцей, або, наадварот, занадта іх апякаюць.

Капытоў таксама адзначыў, што на першым месцы сярод матываў ужывання алкаголю ў маладых людзей знаходзіцца асобасная матывацыя. Падштурхнуць да ўжывання алкаголю можа трывога, дэпрэсія.

«Чалавеку дрэнна, вось ён і вымушаны ўжываць», — сказаў лекар.

Як правіла, той, хто сістэматычна ўжывае алкагольныя напоі да 18 гадоў, становіцца ў будучыні алкаголікам. Існуе прамая сувязь, як адзначыў Капытоў, паміж раннім ужываннем алкаголю і хуткасцю фарміравання залежнасці ад яго.

Падлеткі, якія ўжываюць алкаголь, набываюць розныя саматычныя захворванні. Акрамя таго, у 67% такіх падлеткаў слабая палавая канстытуцыя. Падлеткі, якія п'юць, выказваюць невялікі ў параўнанні са сваімі аднагодкамі інтарэс да процілеглага полу, маюць сексуальныя растройствы. Пры гэтым названыя праблемы карэктуюцца ў залежнасці ад актыўнасці ўжывання алкаголю.

# Ó÷û ì êàðûñöü "øêîäíûõ" ïðàäóêòà¢?

**Шматлікія прыхільнікі здаровага ладу жыцця і барацьбіты з лішняй вагой спрэс выключаюць са свайго паўсядзённага меню прадукты, якія дзякуючы сродкам масавай інфармацыі атрымалі вельмі дрэнную славу. Аднак пастаюць яны так зусім дарма. Медыкі ўсё часцей і часцей кажуць, што прадукты, якія лічацца шкоднымі для здароўя, пры ўмераным спажыванні здольныя прыносіць арганізму чалавека велізарную карысць.**

**Бульба**

Паўсюдна лічыцца: раз у бульбачцы шмат крахмалу, ад страў з гэтага карняплоду людзі таўсцеюць як на дрожджах. Насамрэч бульбяны крухмал засвойваецца арганізмам вельмі павольна і, не паспеўшы ператварыцца ў тлушч, расходуецца падчас энергетычнага абмену. Наадварот, - своечасова з'едзеная порцыя бульбачкі можа засцерагчы ад лішніх кілаграмаў, бо яна дае адчуванне сытасці, і як правіла, становяцца непатрэбнымі частыя і абсалютна лішнія "перакусы".

**Макароны**

Хоць макароны і вырабляюць з мукі , але з пшаніцы цвёрдых гатункаў. Яна ўтрымоўвае вугляводы, якія засвойваюцца арганізмам павольна. Вырабы з такой мукі ніяк не могуць не пагражаць нашай постаці і быць чыннікам залішняй вагі. Затое макароны багатыя на клятчатку і стымулююць працу страўнікава-кішэчнага тракту. А вось у спажыванні каларыйных соусаў, якія падаюцца да макарон, сябе абмяжоўваць варта.

**Малочныя прадукты з высокім утрыманнем тлушчу**

Шматлікія людзі, якія сочаць за сваёй вагой, купляюць малочныя прадукты толькі з нізкімі паказчыкамі тлустасці. І зусім дарма. Малочны тлушч утрымоўвае рэчывы, якія перашкаджаюць ўзнікненню тлушчавых адкладаў. А вось вітамін В і кальцый, якія ўтрымоўваюцца ў малочных прадуктах, без тлушчу арганізмам не засвойваюцца.

**Поп-корн**

Існуе меркаванне, што такая кукуруза вельмі каларыйная. Насамрэч яна не больш каларыйная, чым іншыя крупы, да таго ж валодае мноствам карысных якасцяў. У кукурузе шмат антыаксідантаў, а таксама клятчаткі, якая нармалізуе стравававанне і змяншае ўзровень цукру ў крыві. Іншая справа, што кукуруза, якую прадаюць у грамадскіх месцах, густа закрашана раслінным тлушчам, цукрам, соллю і рознымі харчовымі дадаткамі. Таму калі вы любіце поп-корн, лепш рыхтуйце яго дома з паўфабрыката ў мікрахвалевай печы.

**Кава**

Асноўны аргумент тых, хто ўстрымліваецца ад кавы, складаецца ў тым, што гэты напой павялічвае да хмарных вышынь артэрыяльны ціск, нагружае сэрца і аслабляе нервовую сістэму. Усё гэта так, уся справа ў дозах. Калі выпіваць не больш за чатыры кубкі ў дзень, тады кава пойдзе арганізму толькі на карысць. Даказана, што чорная кава папярэджвае развіццё старэчай прыдуркаватасці, хваробы Альцгеймера, атэрасклерозу і ў цэлым паляпшае памяць. Апроч таго, кава прыглушае апетыт і паскарае абмен рэчываў, таму тым, хто пакутуе на залішнюю вагу, кава нават паказана.

**Шакалад**

Калі штосьці і ёсць шкоднага ў шакаладзе, то гэта, мабыць, толькі цукар. А вось тлушчы ў горкім чорным шакаладзе маюць расліннае паходжанне, шкоды яны не наносяць, затое карысныя для сардэчнай мышцы. Акрамя таго, у масле какавы шмат антыаксідантаў і прысутнічае тэабрамін - рэчыва, якое супакойвае нервовую сістэму. Шакалад таксама ініцыіруе выкід у кроў гармонаў дафаміну і сератаніну - галоўных барацьбітоў з дэпрэсіяй. А што да страху патлусцець ад шакаладу,тобаяцца не трэба. Долька шакаладу паміж галоўнымі прыёмамі ежы змяншае апетыт, у выніку вы з'ясце менш, чым маглі б.

## ІМЯНІНЫ

**4 лістапада**
**Пр.:** Іконы Казанскай Божай Маці, Ганны, Антона.
**К.:**Яны, Віталя.

**5 лістапада**
**Пр.:** Аляксандра, Мікалая, Уладзіміра, Ігната, Якава.
**К.:** Альжбэты, Захарыя, Славаміра, Яўгена.

**6 лістапада**
**Пр.:** Апанаса, Аляксея, Івана, Мікалая, Пятра.
**К.:**Леанарда, Фелікса, Хрысціны.

**7 лістапада**
**Пр.:** Матроны, Анастасіі.
**К.**:Алены, Карыны, Антонія, Зыгмунта

**8 лістапада**
**Пр.:**Апанаса, Дзмітрыя.
**К.:** Віктара, Севярына, Клаўдзіі, Адрыяна.

**9 лістапада**
**Пр**.:Аляксандры, Елізаветы, Андрэя.
**К.:**Аляксандра, Анатоля, Людвіка, Тодара.

**10 лістапада**
**Пр.**Арсенія, Дзмітрыя, Івана, Максіма.
**К.:**Наталлі, Нэлі, Любаміра, Льва, Сцяпана, Андрэя.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Русский композитор | | Единорог | ...-город | | Часть головы | | Кто открыл Северный Полюс? | Танец молдаван |
| Город на Аляске | | | | | | | | |
| Помощник восточного начальника | | | | | Шумиха | | Звание | |
| | | | | Суп из моллюсков | | | | |
| Щеголь, франт | | | | ... безбрачия | | Гора на Крите | | Часть сапога |
| Райская дама | | | | | | | | |
| Штат в США | Столица в Северной Америке | | Куба | | Стиль в искусстве | | Морское судно | |
| Вид артикуляции в музыке | | Сын Зевса | | | | | | |
| | | | | | | Украинский писатель | | |
| Стадион в Москве | | Верблюд | | Убийца Авеля | | | | |
| | | | | | | ..-мезон | | |
| Приток Енисея | | | | Переносчик энцефалита | | | | |
| Орудие для пахоты | | | | | | Нота | | |

**Ответы на сканворд № 43**

**По горизонтали:** Патрон. Феска. Рапсод. Лонжа. Бардак. Сугроб. "Лолита". Фалда. Елей. Евдоким. Диск. Брянск. Хинди. Вата. Статор. **По вертикали:** Парабола. "Тапёр". Особа. Философ. Сенегал. Або. Дрил. Край. Лето. Тени. "Ауди". Джек. Дир. Канат. Макар. Доха. Сена. Бис. "Ява". Сто.

# ГАРАСКОП
## на новы тыдзень

**АВЕН.** Жыццё падрыхтавала вам нямала неспадзевак. Па большай частцы прыемных. Зберажыце запал авантурызму на будучыню і забудзьцеся пра звычку "шукаць прыгод", каб неяк разнастаіць шэрыя будні. На гэтым тыдні прыгоды самі знойдуць вас, а жыццё зусім не здасца шэрым і маркотным. Прычым гэта тычыцца ўсіх сфер вашага жыцця - асабістай, духоўнай і матэрыяльнай. Будзьце гатовыя да падарункаў лёсу і нечаканых сустрэч, якія могуць змяніць усё ваша жыццё да лепшага.

**ЦЯЛЕЦ.** Не прыспешвайце падзеі. Калі вам цікава, што "дзень будучы вам рыхтуе", пракруціце магчымыя варыянты развіцця падзей у галаве. Але ні ў якім разе нічога не прадпрымайце. Часам лепш даручыцца лёсу. У асабліва крытычных сітуацыях выдатную службу вам саслужаць такія прыроджаныя якасці, як прыстойнасць і шчырасць. І памятайце, што гараскоп –не будучыня, не лёс, а толькі адна з магчымасцяў развіцця падзей і невялікае кіраўніцтва да дзеянняў.

**БЛІЗНЯТЫ.** На гэтым тыдні можаце чакаць канфлікту са сваякамі. Усё вырашыцца спрыяльна, і вашы адносіны з імі, дзякуючы гэтай гісторыі, стануць толькі лепшымі. Тыдзень спрыяльны для актыўнага ладу жыцця - як для фізічнай працы, так і для заняткаў спортам. Калі з'явіцца магчымасць здзейсніць невялікае вандраванне ці паломніцтва ў святыя месцы, доўга не разважайце і не адмаўляйце сабе ў гэтай паездцы.

**РАК.** Не варта ісці супраць сваёй існасці. Калі вас не прыцягвае вячэрняе, а тым больш начное жыццё, а больш падабаецца знаходзіцца дома і займацца сваімі справамі, творчымі праектамі ці проста выконваць дамашнюю працу, у гэтым няма нічога дрэннага. Наадварот, у вас больш , чым у іншых, шанцаў знайсці шчасце ў шлюбе і дамагчыся поспеху і прызнанняў жыцці. Тыдзень спрыяльны для дзелавых і рамантычных сустрэч.

**ЛЕЎ.** Шанцаванне, якое будзе ў вас у самым пачатку тыдня і ў самы нечаканы момант, стане вашым спадарожнікам на доўгі час. Галоўнае, не адмаўляйцеся ні ад чаго, што вам прапануе фартуна, нават калі штосьці здасца вам незразумелым, ненадзейным ці рызыкоўным. Тыдзень спрыяльны для прыняцця важных рашэнняў, вядзення дзелавых перамоў.

**ПАННА.** Наладжванне асабістага жыцця зойме ўвесь ваш час на гэтым тыдні. Падзеі, якія адбудуцца, унясуць поўную яснасць у асабістае жыццё, а канкрэтна - ва ўзаемаадносіны з партнёрам. Паспрабуйце знайсці як мага больш кропак сутыкнення з каханым чалавекам. Гэта дазволіць пазбегнуць неабгрунтаваных і непрыемных здагадак і зробіць вас бліжэйшымі і раднейшымі. Праводзьце як мага больш часу разам: сумесныя паходы ў кіно, у кафэ, у музеі і на прыроду.

**ШАЛІ.** Тыдзень будзе поўны разнастайнымі падзеямі, якія ў значнай ступені паўплываюць на стан вашага ўнутранага свету. Некаторыя з іх могуць падштурхнуць вас на пошукі новага сэнсу жыцця. Але не дазваляйце вашым унутраным ваганням адлюстроўвацца на выніках працоўнай дзейнасці, бізнесу, творчасці і на ўзаемаадносінах з блізкімі і сябрамі. У канцы тыдня варта пабыць сам-насам з сабой, супакоіцца і навесці парадак у думках.

**СКАРПІЁН.** Ваша жаданне пабыць у адзіноце на гэтым тыдні не знойдзе водгуку у вашых блізкіх і родных. Усё, што будзе адбывацца, будзе адбывацца супраць вашай волі, але ў выніку апынецца самым лепшым, што магло адбыцца з вамі ў жыцці. Тыдзень спрыяльны для рашэння набалелых пытанняў і даўніх праблем. У канцы тыдня вас чакаюць важныя падзеі. Нават калі вам здасца, што вы не гатовыя да такіх сур'ёзных змен, кідайцеся ў іх, "як у вір". Вы не пашкадуеце.

**СТРАЛЕЦ.** На гэтым тыдні, прымаючы разнастайныя рашэнні, выявіце ўсю сваю дальназоркасць і прадбачлівасць. У адваротным выпадку вы рызыкуеце страціць не толькі душэўны спакой, але і значную грашовую суму. Тыдзень спрыяльны для клопату пра здароўе, заняткаў спортам і невялікіх вандраванняў. Выхадныя правядзіцесярод сяброў і сям'і. Зрабіце для сябе і вашых блізкіх невялікае свята.

**КАЗЯРОГ.** Пачатак тыдня адзначыцца сустрэчамі з новымі людзьмі і з'яўленнем на гарызонце новых перспектыў. Прыкладзіце трохі намаганняў дзеля дасягнення пастаўленых мэт і выкарыстайце магчымасці, якія з'явіліся. Атрыманыя вынікі перасягнуць усе самыя адважныя чаканні. У асабістых узаемаадносінах могуць адбыцца нечаканыя метамарфозы, але не спяшайцеся рэагаваць на іх. Час сам расставіць усё па сваіх месцах.

**ВАДАЛЕЙ.** Тыдзень прысвяціце пошуку станоўчага ў сабе і вакол сябе. Паспрабуйце пазбягаць фізічных нагрузак і неадкладна пазбаўляйцеся ад усіх, хто аказвае псіхалагічны ціск. Адпачывайце і набірайцеся новых сіл. Асабліва спрыяльнымі будуць выхадныя. Вам можа пашанцаваць самым нечаканым чынам. Але гэта зусім не значыць, што трэба бегчы і скупляць усе латарэйныя квіткі. Магчыма, гэта будзе лёсавызначальная сустрэча.

**РЫБЫ.** Тыдзень падыходзіць для навядзення парадку ва ўсіх справах. На працы, у бізнесе, дома і ў асабістым жыцці. У сярэдзіне тыдня вам спатрэбіцца дапамога збоку. Не саромейцеся прасіць. У вас выдатныя партнёры, калегі, сябры і блізкія, а таму вам гарантаваны непасрэдная дапамога, парады і псіхалагічная падтрымка. Паклапаціцеся пра тое, каб спалучаць працу (якой на гэтым тыдні будзе больш, чым звычайна) і паўнавартасны адпачынак. У канцы тыдня зрабіце вечарынку для сяброў ці схадзіце ў любімы рэстаран.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі № 1210, выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь 8 лютага 2010 г.

"Вольнае Глыбокае"
Заснавальнік:
Прыватнае інфармацыйна-рэкламнае ўнітарнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс»

Газета выходзіць адзін раз на тыдзень.
Аб`ём – 4 друкаваныя аркушы.
Падпісана ў друк 2 лістапада 2010 года ў 21.05

Наклад 2000 паасобнікаў

**Рэдактар :**
**Уладзімір Іванавіч Скрабатун.**
**тэлефон / факс**: (02156) 2 46 14;
**E-mail**: vglybokaye@tut.by
Адрас для допісаў:
**211800 г. Глыбокае п/с 3**

Замова № 3031

Меркаванні выдаўца і аўтараў могуць не супадаць. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор матэрыялаў.Спасылкі на "Вольнае Глыбокае" абавязковыя.

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Вольнае Глыбокае». Надрукавана ў РУП «Перамога», Міністэрства інфармацыі РБ, 222310, г. Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Афсетны друк.

Юрыдычны адрас: вул. Шпітальная, 44, ком.1, г. Глыбокае.

ISSN 2077-8023
9 772077 802009 10044